# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 20 (26). Кастрычнік 1992 г. Цана 1 рубель

## ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ:



## Шырокае кола праблемаў

10 кастрычніка ў сталіцы прайшоў Сойм БНФ «Адраджэньне», які абмеркаваў цяперашнюю сітуацыю на Беларусі, вызначыў задачы Фронта. Падымаліся пытанні аб адносінах з прафсаюзамі і хрысціянска-дэмакратычным Саюзам некаторых краінаў Усходняе Еўропы, разглядалася праблема абароны дзяржаўнасці беларускай мовы.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**

## Аб праекце Канстытуцыі

17—18 кастрычніка на канферэнцыі дэпутатаў мясцовых Саветаў, якую правёў у Менску Беларускі Рэспубліканскі Фонд Падтрымкі Дэмакратычных Рэформаў, абмяркоўваўся раздзел «Мясцовае самакіраванне» праекта Канстытуцыі з мэтай абагульніць прапановы дэпутатаў і навукоўцаў па рэформе сістэмы мясцовых органаў улады з улікам вопыту краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, Балтыі.

**М. В.**

## СУСТРЭЧА З ВЕТЭРАНАМІ

Днямі ў аблвыканкаме адбылася сустрэча прадстаўнікоў ветэранскіх арганізацыяў Віцебска з журналістамі мясцовых газет. Ветэраны заклікалі газетчыкаў глыбей унікаць у жыццё старэйшага пакалення, часцей уздымаць на старонках газет праблемы, з якімі сутыкаюцца ветэраны штодня, сачыць, як мясцовыя органы ўлады выконваюць Закон аб ветэранах.

**А. Б.**

*Весткі з раёнаў*

### Светлым шляхам ўжо не йдзем

На сорак працэнтаў скарочана колькасць лямпаў на вуліцах Докшыцаў. Такое рашэнне прыняў гарвыканкам дзеля эканоміі электрычнасці, кошт якой рэзка павысіўся.

### Гэта паўсюдна

Першыя беспрацоўныя з'явіліся ў Расонскім раёне. На дапамогу ім ужо выплачана болей 36 тысячаў рублёў. Большасць непрацуючых—з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. У Браслаўскім раёне з 79 беспрацоўных 49 атрымалі дапамогу па беспрацоўю, на што выдаткавана амаль 165 тысячаў.

### Працэс пайшоў

У дзіцячых садках Гарадоччыны працуюць 13 беларускамоўных групаў. Яшчэ 3 садкі поўнасцю перайшлі на родную мову. У адзінаццаці школах раёна сёлета з'явілася 18 беларускамоўных першых класаў.



## Віншаванне земляку

*«Выбар» віншуе земляка, таленавітага майстра паэтычнага слова, нашага пастаяннага чытача, прыхільніка дэмакратыі і нястомнага працаўніка на ніве нацыянальнага Адраджэння Рыгора Барадуліна з наданнем яму ганаровага звання народнага паэта Беларусі. Мы ўдзячны за добрыя пажаданні Рыгора Іванавіча ў адрас «Выбара». Жадаем земляку творчых поспехаў, аптымізму і жыццялюбства ў новых творах. А для нас, як і для ўсіх шчырых прыхільнікаў беларўшчыны, паэзія Рыгора Барадуліна заўсёды была вельмі блізкай, роднай. Бо сапраўдны талент неадлучны ад свайго народа, ад Бацькаўшчыны.*



✦

У Віцебску па вуліцы Янкі Купалы ўстаноўлена мемарыяльная дошка з бюстам на доме № 1/46, дзе доўгі час жыў народны артыст Беларусі Анатоль Міхайлавіч Трус, актор Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа.

**Ю. С.**

✦

Супрацоўнікі газеты выказваюць сардэчную падзяку вядомаму дзеячу беларускае эміграцыі ў ЗША **сп. Янку Запрудніку** за добрыя пажаданні й падтрымку «Выбара».

*Нам пішуць з замежжа*

Атрымоўваю ўжо даўжэйшы час выдаваную Вамі газэту «Выбар», з якой маю весткі аб жыцьці і, прабегах розных падзей, якія адбываюцца на далёкай ад нас Беларусі...

У № 20 Вашай газэты быў зьмешчаны мой невялічкі артыкул пра беларускую пасьляваенную эміграцыю ў вольным сьвеце і, асабліва, пра жыцьцё і дзейнасьць беларускай эміграцыі ў Аўстраліі... Артыкул выйшаў вельмі добра і як Вам шчыра дзякую за апублікаваньне яго...

## НАЙШЧЫРЭЙШЫЯ ПРЫВІТАНЬНІ

Пільна наглядаю за прабегам падзей на Беларусі, і мушу прызнаць, занепакоены зарэгістраваньнем камуністычнай партыі міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь... Камуністычная партыя ў вельмі недалёкай прошласьці была той антыбеларускай партыяй, якая сьведама і пастаянна дапамагала былым камунамаскоўскім дыктатарам у Крамлі ў праводжаньні палітыкі гэнацыду на Беларусі і дзякуючы якой Маці-Беларусь была даведзеная амаль што да канчатковага зьнішчэньня!

На заканчэньне я перасылаю ўсім сябрам рэдакцыйнай калегіі і супрацоўнікам і, праз Вашую газэту, усяму беларускаму народу сваё найшчырэйшыя прывітаньні з далёкай Аўстраліі і жадаю далейшага посьпеху ў жыцьці і працы.

Жыве Беларусь!

**З пашанай да Вас Алесь АЛЕХНІК, Гэнэральны сакратар Беларускага аб'еднаньня Аўстраліі.**

# НЕКАТОРЫЯ ЎРАЖАННІ З СЕСІІ АБЛСАВЕТА

**1 кастрычніка адбылася чарговая сесія Віцебскага абласнога Савета. Якія пытанні абмяркоўваліся на ёй, чытачы, пэўна, ужо ведаюць з іншых газет. Таму спынімся толькі на апісанні асобных момантаў працы дэпутацкага форума.**

Па першаму пункту парадку дня са справаздачай аб праекце Канстытуцыі Беларусі выступіў загадчык аддзела сакратарыята Вярхоўнага Савета Р. Васілевіч. Ён адзначыў, што дэідэалагізаваны праект Асноўнага закона заснаваны на агульначалавечых каштоўнасцях, на Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. На ягоную думку, неабавязкова адразу пасля прыняцця Канстытуцыі праводзіць выбары ў новыя органы ўлады.

Да абмеркавання праекта падключыліся дэпутаты ды прадстаўнікі палітычных арганізацый. Дэпутат У. Грыгор'еў выступіў супраць неадкладнага зацвярджэння новае Канстытуцыі. Па меркаваннях былога першага сакратара Віцебскага абкама КПБ, асноўным прынцыпам жыцця грамадства павінна быць: «Ад кожнага—паводле здольнасцяў, кожнаму—за ягоную працу», бо гэтая сацыялістычная ідэя так і не была рэалізавана. Сацыялістычны шлях развіцця адстойваў яшчэ адзін былы партапаратчык І. Навумчык—адзіны з дэпутатаў, які прамаўляў па-беларуску.

Яшчэ адзін выступ на дзяржаўнай мове прагучаў з вуснаў старшыні Віцебскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы В. Арлова. Абодва прамоўцы абаранялі годнасць беларускай мовы, яе права на жыццё. Яны адзначылі, што на Беларусі мусіць быць толькі адна дзяржаўная мова—гарант існавання беларусаў як этнаса.

Прадстаўнік жа партыі камуністаў В. Казлоўскі наадварот выказаўся за наданне рускай мове статуса дзяржаўнай. «Я беларус і ці перастаю ім быць калі гавару па-рускy?»—пытаўся ён. У адказ яму прыводзім словы нашага земляка паэта С. Сокалава-Воюша: «Адзнака ў пашпарце—яшчэ не права звацца беларусам!»

У абмеркаванні праекта Асноўнага закона ўдзельнічалі таксама З. Крот, Г. Харытонава, А. Ніякоўскі, В. Янчук ды інш. Некаторыя выступалі супраць ужывання ў тэксце Канстытуцыі слоў «Сойм» і «ўправа». Большасць аратараў сышлася на думцы, што праект недасканалы і прыняць Канстытуцыю нельга, калі ж і прымаць, то толькі праз рэферэндум. Вырашана ўсе прапановы (а яны былі самыя розныя) сістэматызаваць і накіраваць у парламент. Характэрна, што ў прамовах многіх народных выбраннікаў праявілася дагматычнасць мыслення («белае і чорнае», «капіталістычнае—сацыялістычнае»).

Аб забеспячэнні насельніцтва таварамі гаварыў намеснік старшыні аблвыканкама А. Палейка. На гэтую праблему дэпутаты фактычна не звярнулі сур'ёзнае ўвагі. Можа, стаміліся, а мо, проста не ведалі, што сказаць? Але адпаведную пастанову прынялі. Вось толькі на тое, што пабольшае тавараў ці яны падзешавеюць, надзеі вялікае нешта няма.

Разгледзеўшы «пад заслону» шэраг арганізацыйна-кадравых пытанняў, сесія закончыла работу, абмінуўшы, на мой погляд, важнае пытанне аб непрыгожых гісторыях, у якія трапілі намеснікі старшыні аблсавета Ц. Місуна і старшыні аблвыканкама А. Каралёў. Аднак яны па-ранейшаму на сваіх пасадах і нават сп. Місуна разам з кіраўніком аблсавета У. Кулаковым старшынстваваў на сесіі.

Цікава, як адносіцца да ўсіх гэтых выпадкаў народны дэпутат Беларусі У. Кулакоў?

Нічога, апроч рэзкай крытыкі, не заслугоўвае і сам абласны Савет. Бо, як сведчыць хаця б тая ж гісторыя з «місунаўскім трактарам», Савет не ў стане кантраляваць сваіх кіраўнікоў і выканаўчую ўладу і спытаць з іх за парушэнні. Мабыць, таму, што і сам аблсавет складаецца ў асноўным з посткамуністычнага чыноўніцтва. Дык ці патрэбны нам такія саветы, якія толькі лішнім цяжарам вісяць на падаткаплацельшчыках? Нават калі мы выберам мясцовыя Саветы на шматпартыйнай аснове, думаю, гэта не палепшыць справы, бо кожная партыя будзе адстойваць свой пункт гледжання па таму ці іншаму пытанню. Навошта тады такое мноства мясцовых парламентаў? У дзяржаве, па маіх меркаваннях, павінен быць адзін парламент. А замест мясцовых Саветаў трэба даць права грамадскасці праз палітычныя партыі, прафсаюзы, іншыя грамадскія арганізацыі, праз сродкі масавай інфармацыі ва ўзаемадзеянні з пракуратурай і іншымі праваахоўнымі органамі непасрэдна кантраляваць дзейнасць мясцовай выканаўчай улады. Кіраўнік такой улады, як і прадугледжана праектам Канстытуцыі, павінен выбірацца ўсеагульным галасаваннем жыхароў мясцовасці. Замест сельсаветаў варта, на маю думку, увесці вызваленую пасаду старасты вёскі, які выбіраецца ўсім насельніцтвам на пэўны тэрмін і прадстаўляе мясцовых жыхароў у вышэйстаячым органе (управе).

Але праект Канстытуцыі захоўвае сістэму мясцовых Саветаў, якія і надалей будуць «шырмай» народаўладдзя. А за ёй па-ранейшаму будуць злоўжываць уладай і здзекавацца з працоўнага люду новыя чыноўнікі.

**А. БУКАЧОЎ.**

P. S. Вось такія думкі выклікала ў мяне сесія Віцебскага абласнога Савета. Характэрная дэталь. У пачатку сесіі па прапанове старшыні У. Кулакова з ліку дэпутатаў былі выбраны так званыя лічыльнікі, якія павінны былі падлічваць галасы «за» і «супраць» у час галасавання. Але працаваць ім не давялося: усе пытанні вырашаліся амаль аднагалосна.

**А. Б.**

# Мэты БСДГ застаюцца ранейшымі

*3—4 кастрычніка ў Менску адбыўся тэарэтычна-практычны семінар Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, прысвечаны будучай выбарчай кампаніі. У ім бралі ўдзел члены Цэнтральнай рады БСДГ, выканкама, прадстаўнікі рэгіянальных структураў, прафсаюзных аб'яднанняў, прадстаўнікі сацыял-дэмакратаў зямлі Брандэнбург Германіі і фонду Ф. Эберта.*

*У сваім уступным слове старшыня партыі праф. М. Ткачоў адзначыў, што заключанае 2.10.92 г. пагадненне з федэрацыяй прафсаюзаў павінна спрыяць умовам передвыбарнай кампаніі ў цэнтральныя і мясцовыя органы кіравання, бо мэты дзейнасці сацыял-дэмакратаў і прафсаюзаў у значнай ступені супадаюць—людзі працы (усе, хто чэсна работае ў любой галіне гаспадаркі) могуць і павінны жыць адпаведна нормам цывілізаванага грамадства.*

*Па меркаваннях намесніка старшыні БСДГ дэпутата ВС А. Трусава, выбары могуць адбыцца вясной 1993 г.*

*Мэты БСДГ застаюцца ранейшымі: сцвярджэнне правоў і свабод чалавека; стварэнне шматукладнай (рынкавай) сацыяльнай і экалагічнай эканомікі; пабудова салідарнага грамадства на аснове ўкаранення прынцыпаў свабоды, роўнасці, сацыяльнай справядлівасці, дэмакратыі і прыярытэту права; пабудова незалежнай, прававой і сацыяльнай Беларускай дзяржавы—раўнапраўнага суб'екта еўрапейскай і сусветнай супольнасці.*

*Пад сацыяльнай справядлівасцю разумеецца ліквідацыя ўсялякай дыскрымінацыі асобы, роўнасць правоў і магчымасцей, дапамога чалавеку, які церпіць ад фізічнай, разумовай ці сацыяльнай непаўнацэннасці, незалежнасць чалавека ад уладальніка сродкаў вытворчасці і ўлады.*

*Пад сацыяльнай дзяржавай разумеецца такая, у якой на першым месцы стаіць грамадства і дамінуюць яго інтарэсы.*

*БСДГ будзе працягваць актыўную працу па нацыянальнаму адраджэнню як беларусаў так і асобаў усіх нацыянальнасцяў, якія жывуць на Беларусі і з'яўляюцца яе грамадзянамі.*

*На семінары абмяркоўвалася магчымая тактыка на будучых выбарах. Сваім вопытам аб папярэдніх выбарах падзяліліся тыя, хто ў іх удзельнічаў, а таксама нямецкія госці, якія скіравалі ўвагу і на тое, што дзейнасць сацыял-дэмакратаў у многіх краінах прынесла добры плён. Напрыклад, у Швецыі, дзе ўдалося значна павысіць дабрабыт людзей.*

*У рэчышчы мэты семінара разглядаліся і прынцыповыя палажэнні праекта праграмы БСДГ, якая будзе прадстаўлена другому з'езду Грамады.*

**В. АРЛОЎ,**
**член Цэнтральнай рады БСДГ.**

# Не толькі цытаты

Канешне, трэба шчыра прызнацца: зніжэнне жыццёвага ўзроўню адбылося, але гэта—не жабрацтва. Я разумею жабрацтва так: чалавеку няма чаго апрануць, няма чаго паесці.

**Старшыня Савета Міністраў РБ В. Ф. Кебіч у інтэрв'ю часопісу «Беларусь» (№ 9, 1992) «Як будзем жыць! Пакуль што горш!»**

І дзякуй таварышу Кебічу за тое, што растлумачыў усім нам, простым людцам, што нашае становішча—яшчэ не жабрацтва. Ад усведамлення гэтага факта, мажліва, мы будзем жыць лепей ды весялей.






Ля вітрыны віцебскай кнігарні «Глобус».
Зараз слоў «Партия», «Октябрь» ужо няма, засталіся «Ленин» і жабрацтва.

# НАВІНЫ

Арганізацыйны камітэт па скліканні III Вальнага Сойму беларускіх маладзёжных суполак правёў 11 кастрычніка ў Менску падрыхтоўчую нараду.

***

Польскае радыё мяркуе ў кастрычніку распачаць перадачы курса беларускае мовы.

***

Віцебская абласная арганізацыя АДПБ выпусціла ў аршанскай друкарні накладам 1000 экземпляраў брашуру з асноўнымі дакументамі партыі.

**М. Каліноўскі.**

*У мясцовых філіях*

# Больш канструктыўнасці

Адбылася абласная нарада прадстаўнікоў рэгіянальных арганізацый АДПБ. Асноўнай праблемай у партыі, варыянты вырашэння якой прапаноўвалі прысутныя,—з'яўляецца слабая эфектыўнасць працы некаторых суполак і адсутнасць шчыльнай сувязі між імі.

Як адзначалася, колішні лозунг «Далоў» зараз неактуальны, неабходна большая канструктыўнасць у дзейнасці аб'яднаных дэмакратаў. Галоўнымі мэтамі ў найбліжэйшым часе павінны стаць актыўны ўдзел у рэспубліканскім рэферэндуме і работа па прыцягненні большае ўвагі будучых выбаршчыкаў да партыі. «Нам трэба пастаянна павышаць узровень тэарэтычных ведаў у галіне палітыкі, а таксама наладжваць кантакты з раённымі структурамі ТБМ, каб удасканальваць веданне дзяржаўнай мовы»,—сказаў кіраўнік АДПБ у Віцебскай вобласці М. Турчанаў.

Вырашана правесці ў недалёкай будучыні справаздачна-выбарную канферэнцыю абласной арганізацыі партыі.

**Н. ПРЫСУТНЫ.**

Зянон Пазьняк

# СТВАРЭНЬНЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ВОЙСКА І ДЗЯРЖАЎНАЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

Стварэньне нацыянальнага войска і наяўнасьць нацыянальных узброеных сілаў зьяўляецца адным з асноўных крытэрыяў суверэнітэту. Гэта абавязковая ўмова. Існуюць, праўда, і выключэньні. Але гэта характэрна толькі для карлікавых дзяржаваў з вельмі маленькім насельніцтвам, суверэнітэт якіх ёсьць вынік сьпецыфічных гістарычных і геаграфічных абставінаў. Для Беларусі, улічваючы яе геапалітычнае становішча і імкненьне да нейтральнасьці, наяўнасьць моцнага войска, здольнага выконваць усе сучасныя функцыі актыўнай абароны тэрыторыі, зьяўляецца адным з важнейшых чыньнікаў суверэнітэту і нейтралітэту. Гарантаваць рэальны суверэнітэт і нейтралітэт павінна таксама моцнае войска, што пацьвярджаецца вопытам нейтральных краінаў (Швецыя, Швейцарыя і інш.). Павінен адзначыць, што ідэя нейтралітэту ўжо ў пэўнай ступені састарэла ў агульнаэўрапейскім сэнсе пасьля распаду Варшаўскага дагавору. Але для Беларусі яна цяпер надзвычай актуальная, каб забясьпечыць свой суверэнітэт, не даць уцягнуць сябе ў блокавыя і геапалітычныя гульні іншых дзяржаваў, дакладней пэўных палітычных сілаў гэтых дзяржаваў. Не магу сказаць, каб існуючы ўрад Беларусі добра ўсьведамляў гэта. Маскоўскія пагадненьні 20 ліпеня паміж урадамі Беларусі і Расейскай Федэрацыі паказалі, што беларуская камуністычная наменклатура гатовая прадаць і нейтралітэт, і нацыянальныя інтарэсы.

Улічваючы фактар кампрадорскай ненацыянальнай пазіцыі значнай часткі цяперашняй дзяржаўнай наменклатуры, успомнім кароткую гісторыю стварэньня беларускага войска. Яшчэ ў верасьні 1991 года Вярхоўны Савет выявіў поўнае неразуменьне ўвогуле неабходнасьці стварэньня нацыянальных узброеных сілаў, не даючы ніякіх рэкамендацыяў адначасна, што рабіць з савецкай арміяй на Беларусі. Гэта вынік невысокага палітычнага ўзроўню і дэфармаванай, няразьвітай нацыянальнай сьвядомасьці «народных абраньнікаў». Тады, як выявілася, нават у савецкай арміі лепш разумелі пэрспектыву стварэньня беларускага войска. Спатрэбілася шмат марна страчанага часу, пакуль абставіны, што разьвіваліся вакол Беларусі, не прымусілі Вярхоўны Савет прызнаваць патрабаваньні і прапановы Народнага Фронту і Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў, якое акурат разгарнула дзейнасьць у гэты час.

Асноўны клопат бальшыні ваеннаслужачых савецкай арміі на Беларусі ў гэты «інкубацыйны» перыяд— матэрыяльны інтарэс—«што мне дадуць, калі я буду ў беларускім войску?». Прайшоў час і ваенная наменклатура, якая не дапускала і думкі пра беларускае войска, усьвядоміла, што выхаду няма—беларускае войска будзе створана. Вось тут і пачаўся генеральскі ажыятаж. Барацьба за крэслы, за вакансіі, за пасады, за месца ў Міністэрстве абароны і ў вайсковых структурах пры падтрымцы ўраду закончылася поўнай і ўсеагульнай перамогай савецкай вайсковай наменклатуры. Усе ўзброеныя сілы падпарадкавалі Саўміну, а ў Саўміне стварылі і ўмацавалі кадрамі былых партначальнікаў і палітрукоў Упраўленьне грамадзкай бясьпекі і абароны, якое і пачало кіраваць Міністэрствам абароны, вызначаць кадравую і іншую палітыку ў войску.

Палітычныя задачы, якія ажыцьцяўляе ў войску праз структуры Саўміна посткамуністычная наменклатура, выкліканы і акрэсьлены, перш за ўсё, надыходзячым рэферэндумам. Наменклатурная бюракратыя зараз гатова паставіць на карту ўсё, толькі б затрымаць за сабой уладу ў дзяржаве. Праводзіцца тыпова камуністычная палітыка. Ураду патрэбна войска, што было б аднародным і паслухмяным на выпадак грубых неканстытуцыйных дзеяньняў з боку Саўміна ў выніку посьпеху рэферэндуму і паражэньня наменклатуры на выбарах. Менавіта гэтымі матывамі выклікана кампанія звальненьня ў запас афіцэраў-беларусаў, паслухмяна падтрыманая Міністэрствам абароны, і кампанія шальмаваньня Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў.

Як вядома, армейская палітыка КПСС, як і эканамічная ў эканоміцы, была падпарадкавана не толькі задачам абароны і агрэсіі, але, перш за ўсё, задачам стварэньня і ўмацаваньня імперыі, імперскай палітыцы русіфікацыі. Беларускія хлопцы, якія ішлі служыць у савецкую армію нармальнымі людзьмі, вярталіся адтуль у большасьці ўжо русіфікаванымі, з расейскай мовай і абыякавымі адносінамі да ўсяго роднага, часта з пачварнымі чужымі ўяўленьнямі пра мараль і дачыненьні паміж людзьмі. Не раз прыходзілася назіраць, як тое добрае, што было закладзена ў юнака сям'ёй, бацькамі, нават школай, перакрэсьлівалася 2—3 гадамі службы ў савецкай арміі. Камуністы, разбураючы нацыі і этнасы, акрамя таго, што атручвалі інтэлект ідэалогіяй інтэрнацыяналізму, сьпецыяльна прадугледжвалі, каб салдаты і афіцэры-беларусы не служылі на Беларусі. У выніку на сёньняшні дзень у Беларускім войску працуе толькі 18 працэнтаў (прытым гэтая лічба лічыцца завышанай) афіцэраў-беларусаў (каля 5 тысячаў чалавек) у той час, калі амаль 40 тысячаў афіцэраў-беларусаў апынуліся за межамі радзімы і практычна не маюць магчымасьці вярнуцца на Беларусь з-за неспрыяльнай палітыкі, якую праводзяць у дачыненьні да іхняга вяртаньня ўрад і ваеннае ведамства Беларусі, якія дзейнічаюць тут у рэчышчы расейскай палітыкі.



Вось гэты чыньнік, чыньнік скрытай палітыкі чужой дзяржавы, сувязь яе з кампрадорскімі ўрадавымі структурамі Беларусі, іграе тут, на мой погляд, вялікую ролю. Гісторыя пацьвердзіла, што, каб захаваць і ўмацаваць сваю ўладу, камуністычная наменклатура можа ахвяраваць жыцьцём мільёнаў людзей, культурай, нацыянальным дабрабытам, дзяржаўным суверэнітэтам, толькі б забясьпечыць сваё кіраваньне і свой дабрабыт. Беларуская камуністычная наменклатура не спадзяецца на свае сілы. Яна па традыцыі прадажная, таму схільная, каб захаваць уладу любымі сродкамі, абаперціся на чужую сілу і чужую палітыку. На прасторах Беларусі цяпер вольна дзейнічаюць разьведкі ўсяго сьвету, нават новастворaных дзяржаваў. Прыярытэтам карыстаецца расейскае КДБ і расейская разьведка, якая тут поўнасьцю валодае становішчам, а нядаўна нават заключыла фармальнае пагадненьне аб супрацоўніцтве «ў вобласьці зьнешняй разьведкі» з Камітэтам дзяржбясьпекі Беларусі.

Падрыўная дзейнасьць расейскай разьведкі стала ўжо адчуваецца не толькі ў войску, але і ў працэсах нашага грамадзтва, асабліва ў прапагандзе. Не сумняваюся, што хутка гэтая падрыўная «праца» чужой разьведкі стане прадметам абмеркаваньня ў палітычных колах і нават прывядзе да адпаведных захадаў.

Правядзеньне сьвята беларускай вайсковай славы і грамадзкае прыняцьце прысягі 8-га верасьня гэтага года нанесла магутны ўдар па планах Ураду і чужой палітыкі на Беларусі адначасна войска. Рэакцыя на сьвята часткі кіруючых генералаў і залежных ад іх асобаў была нервовай, істэрычнай і вельмі паказальнай. Адразу ўсё выявілася—і антынацыянальная, антыдэмакратычная скіраванасьць кіруючых вайсковых структураў у Міністэрстве абароны і ў Саўміне, і махровы антыдэмакратызм старой савецкай наменклатуры, яе нянавісьць да незалежнасьці Беларусі, да беларускага адраджэнскага руху, да беларускай гісторыі, да ўсяго, што беларускае. Пасыпаліся розныя бязглуздыя звароты і прэтэнцыёзныя адкрытыя лісты, замешаныя, як звычайна, на нянавісьці і хлусьні. Справа дайшла нават да камізму, калі былыя ваенныя палітрукі з сур'ёзным выглядам пачалі пісаць артыкулы пра беларускую гісторыю, бяздарна перапісваючы старыя камуністычныя фальсіфікаты. А Калегія Міністэрства абароны прыняла афіцыйны зварот, дзе назвала ўрачыстае грамадзкае прыняцьце зацьверджанай Вярхоўным Саветам прысягі на вернасьць дзяржаве і народу Беларусі «антыдзяржаўнай акцыяй». (Не ведаю, ці сьведчыць гэта пра вялікую працу інтэлекту тых, хто такое склаў, тут, хутчэй, выяўленьне неадпаведнасьці займаемым пасадам).

Калі падсумаваць і прааналізаваць тое, што толькі за верасень зроблена і напісана вайсковай наменклатурай, прыходзіш да высновы, што гэтым людзям абсалютна няма чаго рабіць у беларускім войску, ні ў цяперашнім, ні ў будучым. Войска—гэта асобая дзяржаўная структура. Вайсковы афіцэр не можа працаваць у войску і ненавідзець незалежнасьць дзяржавы, якой служыць, нацыянальную культуру і мову народа, што гэтае войска ўтрымлівае. Гэта не толькі не маральна, гэта алагічна. Не можа быць войска, дзе афіцэры без прысягі. Тым часам, менавіта такое войска сьвядома створана цяпер на Беларусі.

Другое, што відаць з аналізу наменклатурнай істэрыкі, гэта сэнс дэбеларусізацыі афіцэрскага корпуса беларускага войска. Чыноўнікі Саўміна і кіруючая частка былых савецкіх генералаў на Беларусі хацелі стварыць за кошт Беларусі чужое войска, няздольнае абараняць пры неабходнасьці суверэнітэт дзяржавы пры пагрозе з усходу. Падрыхтоўваліся падставы для ціхай акупацыі Беларусі, якая ўжо пачалася рабіцца рукамі беларускага Савету Міністраў і захадамі расейскай дыпламатыі.

Гэтыя дзеяньні суадносяцца з зьнешнепалітычнымі захадамі Ураду. Згодна з дакументамі, падпісанымі 20 ліпеня ў Маскве, усе стратэгічныя войскі на Беларусі пераходзяць пад юрысдыкцыю Расейскай Федэрацыі не на 2 гады, як папярэдне дамоўлена было ў пагадненьнях СНД, а на 7 гадоў. Пры гэтым ніякай арэнднай платы за выкарыстаньне тэрыторыі, зямлі, палігонаў, аэрадромаў, за псаваньне прыроды і т. п. Беларусь не будзе атрымліваць. Наадварот, сацыяльна-бытавое ўтрыманьне расейскага войска павінна будзе забясьпечваць наша дзяржава. Ніякіх пошлінаў за любыя вайсковыя транспартныя перавозкі Расея Беларусі выплачваць не будзе. Адпаведна Беларусь не можа ажыцьцяўляць кантроль за перамяшчэньнем расейскіх войскаў на беларускай тэрыторыі. Тым часам Расея згодна з пагадненьнямі павінна мець поўны кантроль над разьвіцьцём і прадукцыяй беларускіх абарончых прадпрыемстваў аж да атрыманьня праектнай і тэхнічнай дакументацыі. І ўжо зусім поўным абсурдам гучыць палажэньне аб тым, што грамадзяне Беларусі будуць праходзіць абавязковую вайсковую службу ў расейскім войску. Тое, што гэта нечуванае глупства—яшчэ паўбяды. Цяжкія вынікі такога безгалоўя, бо згодна з законам аб грамадзянстве людзі, што паступаюць на службу ў чужое войска, аўтаматычна трацяць грамадзянства Беларусі. Інакш як зьдзекам над нашай дзяржавай, над нашымі законамі і над нашай нацыянальнай годнасьцю гэтыя пагадненьні не назавеш. Аднак, калі разглядаць іх у рэчышчы эгаістычнай палітыкі камуністычнай наменклатуры, становіцца зразумелым, чаму так цынічна прадаюцца нацыянальныя інтарэсы Беларусі.

Маскоўскія пагадненьні 20 ліпеня, дзе былі ў чарговы раз праігнараваныя ранейшыя пагадненьні па СНД, канчаткова паказалі, што СНД ужо вычарпала свае магчымасьці і ператварылася ў зручную шырму і падставу для імперскай палітыкі Расеі і палітычнага націску на іншыя дзяржавы Садружнасьці. Беларусі больш няма неабходнасьці заставацца ў СНД. Далейшае знаходжаньне ў гэтым фармальным утварэньні пагражае стратай ужо набытай незалежнасьці, не спрые вяртаньню ў цывілізаваную Эўропу, Выхад з СНД і поўны вывад расейскага войска з Беларусі да 1994 года—гэта патрэбы, якія становяцца на палітычны парадак дня.

Аднак важнейшай задачай застаецца стварэньне новага беларускага войска на аснове старой савецкай арміі. Фармальна для вайсковага будаўніцтва ўжо створаны першыя элементарныя магчымасьці. Аднак стары наменклатурна-вайсковы багаж, старыя камуністычныя хваробы і балячкі старога войска плюс неспрыяльныя дзеяньні наменклатурнага ўраду, што змыкаюцца з палітыкай чужой дзяржавы, зводзяць на нішто ўсе гэтыя фармальныя ўмовы.

Акрамя таго, карупцыя і зладзейства, што панавалі ў савецкай арміі, цяпер шырока распаўсюдзіліся і дасягнулі незвычайных памераў. У сувязі з гэтым вельмі нізка ўпала мараль, дысцыпліна, годнасьць афіцэра. Адбылося зьмяшаньне маральных і немаральных крытэрыяў, паняцьцяў. Нават лепшыя людзі здольныя дзеля добрых мэтаў карыстацца немаральнымі сродкамі, блытаючы маральныя памкненьні з адказнасьцю і маральнымі абавязкамі.

Аднак не наліваюць у старыя мяхі віно маладое. Змагацца з карупцыяй трэба будзе не толькі законам, выкананьнем закона, але і кадравай палітыкай і сістэмай выхаваньня і стварэньнем новых структураў, іншай сістэмы кіраўніцтва і падпарадкаваньня.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# ПРЫТУЛЮСЯ ДА

*Калі ж маўчым, хоць і*
*нязгодныя,*
*Калі нам мову зацяло,*
*Мы, мусіць, гэтакія ж подлыя,*
*Як тыя, што ствараюць зло.*

*Мы, мусіць, гэткія ж пры*
*выпадку,*
*Бо, што ні дзень, усё смялей*
*Жывецца ім, духоўным*
*вылюдкам*
*Усіх парод і ўсіх масцей.*
**Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ.**

## НА НАС ЛЯЖЫЦЬ АДКАЗНАСЦЬ

Нам, настаўнікам, трэба зразумець, што на нас ляжыць вялікая адказнасць за лёс нашага народа, яго мовы і ўсёй культуры. І, хочам мы таго ці не, але прыйдзецца дасканала вывучаць родную мову і весці на ёй заняткі. Іншага шляху да адраджэння няма. І ўзначаліць гэтую работу па адраджэнню нацыянальнай культуры таксама павінны мы, настаўнікі, як адукаваная і культурная частка грамадства. І выконваць гэту работу так, каб яна давала практычны плён.

Многія ў нас зараз настойваюць на прыняцці дзвюх дзяржаўных моў—рускай і беларускай. Асабліва ўсялякія чыноўнікі, якім трэба запаўняць многа папер. Але яны не разумеюць, што прыняццё дзвюх дзяржаўных моў усё роўна не пазбавіць іх ад неабходнасці ведаць беларускую мову. Колькі б дзяржаўных моў ні прынялі, трэба будзе ведаць кожную з іх. На тое яны і дзяржаўныя. Такія выпадкі, калі разам існуе не адна дзяржаўная мова, ёсць у некаторых краінах свету. Там службовыя асобы размаўляюць з людзьмі на той мове, на якой да іх звяртаюцца. Беларускую мову ў любым выпадку трэба будзе ведаць. Не трэба сябе цешыць дарэмнымі надзеямі, а лепш хутчэй браць у рукі падручнікі і пачынаць вывучэнне нашай вельмі прыгожай і мілагучнай беларускай мовы.

**В. К. БЕЛАВУС,**
**г. п. Руба.**

## Супраць чаго пратэстуе «Белая Русь»?

*«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова.*
*Рэспубліка Беларусь забяспечвае свабоднае карыстанне рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін народаў...»* **(Арт. 68 Канстытуцыі РБ).**

1 кастрычніка сесія віцебскага аблсавета абмяркоўвала праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. К адкрыццю сесіі каля будынка аблвыканкама сабаралася дзесятка паўтара пікетчыкаў з чырвонымі сцягамі і рознымі лозунгамі, накіраванымі супраць праекта новай беларускай Канстытуцыі, ці асобных яе артыкулаў. Сярод гэтага «натоўпу»—быў і А. Нікіценка, прадстаўнік нешматлікай «Белай Русі», з лозунгам супраць артыкулаў 1 і 17.

Першы артыкул праекта Канстытуцыі зацвярджае незалежнасць і самастойнасць Рэспублікі. І таму неяк дзіўна, што прадстаўнік нейкай суполкі, гучна імянуючай сябе «Белая Русь», выступае супраць незалежнасці Беларусі.

У семнаццатым артыкуле сказана: «Дзяржаўнай мовай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова.

Усім грамадзянам Рэспублікі ў адпаведнасці з законам гарантуецца права карыстацца роднай мовай».

Дык што, «Белая Русь» і супраць таго, каб грамадзянам Рэспублікі гарантавалася права карыстацца роднай мовай? Супраць артыкула 28 Закона аб мовах, дзе: «Гарантуецца... захаванне і развіццё культуры на мовах прадстаўнікоў іншых народаў, што жывуць у Рэспубліцы»? Не, Нікіценка, як і спадар Янчук з мединстытута, якія выступіў на сесіі, і некаторыя прадстаўнікі абласной адміністрацыі, супраць першага сказа артыкула 17, яны за сумна вядомае двухмоўе, але аформленае юрыдычна.

Чаму апошнім часам так зацята атакуецца артыкул 17 праціўнікамі Закона аб мовах? Выступленне пэўных груп людзей супраць дзяржаўнасці толькі беларускай мовы пачалося пасля таго, як стала ясна, што закон аб мовах, хоць і з вялікай цяжкасцю, але дае станоўчы вынікі, і многія грамадзяне Беларусі асэнсавалі жудаснае становішча, у якое былыя парадкі загналі беларускую мову і культуру і ўрэшце спустошылі душу беларуса.

Хто выступае супраць дзяржаўнасці толькі беларускай мовы і за наданне расейскай мове статуса другой дзяржаўнай? Дзве катэгорыі людзей.

Першая—гэта дэнацыяналізаваная, малаадукаваная ў гістарычным і амаль не выхаваная ў культурным сэнсе група, якая не ведае практычна нічога не толькі пра свой народ, але і пра свой род, пра сваю сям'ю, акрамя можа дзеда. Гэта людзі, часта адзначаныя і такой якасцю, як лянота, якая выклікае ў іх натуральнае супраціўленне набываць нейкія новыя веды ўвогуле.

Другая катэгорыя—гэта свядомыя недабразычліўцы ўсяго беларускага, якія прыкрываюцца папулісцкімі заклікамі аб агульначалавечых каштоўнасцях і добра выкарыстоўваюць неадукаванасць першай групы.

Якія ж выстаўляюцца доводы ў карысць другой дзяржаўнай мовы—расейскай?

1. Большасць насельніцтва карыстаецца расейскай мовай, так «склалася» гістарычна і натуральна.
2. Надалі беларускай мове статус дзяржаўнай і не спыталіся ў народа, не правялі рэферэндум.
3. Калі прымушаюць вывучаць беларускую мову, дык парушаюць правы чалавека.
4. У Фінляндыі існуе дзве, а ў Швейцарыі і іншых краінах—некалькі дзяржаўных моваў. Маўляў, зробім, як у іх, у цывілізаваных краінах.
5. Закон уводзіцца вельмі шпарка, трэба расцягнуць яго ажыццяўленне на большы тэрмін.

Што да першага довада, дык большасць насельніцтва карыстаецца не расейскай мовай, а «трасянкай»—сумессю, якая не робіць гонару яе носбіту ні тут, ні там, у Расіі. І склалася гэта не гістарычна і не натуральна, а прымусова—забаронай беларускай мовы ў судах і афіцыйных установах царом Мікалаем І у 1831 г., дзяржаўнымі актамі Расійскай імперыі 1867 г., забаронай беларускіх школ пасля 1907 г., мэтанакіраваным знішчэннем беларускіх школ у 50—60 гады, прамымі ўказаннямі Хрушчова і Фурцавай аб згортванні сферы функцыянавання беларускай мовы, сакрэтнай пастановай ЦК КПСС 1978 г. пры Брэжневе, змяншэннем ужывання нацыянальных моваў пастановай ЦК КПСС і СМ СССР № 473, падпісанай Андропавым і Ціханавым у 1983 г.

Міжволі паўстае пытанне, чаму шаноўныя змагарыінтэрнацыяналісты ў той час не пратэставалі супраць гвалту над нацыяй, над народам? Чаму ў той час не выступалі супраць, чаму не патрабавалі такога моднага зараз рэферэндума?

Кажуць: «Дык што ж, і мы будзем зараз так рабіць, як Сталін, Хрушчоў, Брэжнеў?»

*У часіну адпачынку*

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| А | Б | І | Б | О | К | Р | А | С | К | А |
| Б | | | | | | | | | | Б |
| А | | | | | | | | | | А |
| Л | | | | | | | | | | Р |
| О | | | | | | | | | | О |
| Н | | | | | | | | | | Н |
| А | Б | С | А | Д | А | Б | О | Д | В | А |

## Праверце свае веды

Колькі слоў у чатырохвугольніку?

Перакладзіце на рускую мову:
бяседа, час, дыван, благі, адказ, лік, краска, калёсы, рэч, прозвішча.

Падбярыце сінонімы да слоў:
бачына, валіза, варункі, жаўнер, лемантар, наклад, жалязка, крама, гаспадарства, ксёнжка.

Адказы—у наступным нумары.

**Склаў М. ВАЛАЧОБНІК.**

# ШТО ТАКОЕ

*Вакол культурна-рэлігійнага жыцця*

**(Працяг. Пачатак у № 19).**

Ад праваслаўя часоў зацьверджаньня сьвята «Трыумфа праваслаўя»,—ад праваслаўя першых сямі Сусьветных сабораў, ад праваслаўя сьв. Ефрасіньні Полацкай, сьв. Язафата Кунцэвіча,—мы, грэкі-каталікі Беларусі, не адмаўляемся; мы поўнасьцю яго спавядаем.

Слова «праваслаўны» мае яшчэ й такі сэнс,—той, хто правільна ўслаўляе Бога. А гэта будзе толькі тады, калі вызнаеш сапраўдныя дагматы.

Разгледзім чатыры зь іх.

І. У Новым Запавеце можна прачытаць наступнае:

а) «Адно цела й адзін дух... Адзін Госпад, адна вера, адно Хрышчэньне, адзін Бог і Айцец усіх...» (Эф. 4: 4—6). З гэтых слоў бачна, што Хрысьціянская Царква павінна быць адзінай, як на векі адзіны Хрыстос.

б) «І станецца адзін статак й адзін пастыр» (Іоан 10—16). «Пастыр заўсёды адзін—Хрыстос. Але авечкі, якія падпарадкоўваюцца Яму праз розна-навучаючых пастыраў, ня могуць складаць адзінага статка. Зразумела: неабходна, каб на зямлі быў бачны пастар, намесьнік Хрыста. Хто можа ім быць?..» (стар. 216).

в) «Сымон жа Пётр адказваючы сказаў: Ты Хрыстос, Сын Бога Жывога. Тады Ісус сказаў яму ў адказ: шчасьлівы ты, Сымон, сын Іоніс; бо ня цела й крой адкрылі табе гэтае, але Айцец Мой, што ў Нябёсах. І Я кажу табе: Ты—скала, і на гэтай скале Я збудую Царкву Маю, і вароты пякельныя не пераможуць яе. І дам табе ключы Царства Нябеснага; і што зьвяжаш на зямлі, тое будзе зьвязана на небе; і што разьвяжаш на зямлі, тое будзе разьвязана на небе». (Мацьвей 16:16—19).

«І сказаў Госпад: Сымон, Сымон! Вось шатан пажадаў вас, каб прасейваць, як пшаніцу; але Я маліўся за цябе, каб не паменшыла вера твая; і ты некалі, навярнуўшыся, умацуй веру братоў тваіх» (Лука 22:31, 32).

«Калі-ж яны абедалі, Ісус кажа Сымону Пятру: Сымон Іонін, ці любіш ты Мяне больш, чым яны? Пётр кажа Яму: так, Госпадзе! Ты ведаеш, што я люблю Цябе. Ісус кажа яму: пасі авечкі Мае». І яшчэ два разы спытаў яго Збавіцель: «ЦІ ЛЮБІШ ты Мяне» і два разы сказаў «пасі авечкі Мае» (Іоан 21:16—17).

Кожны непрадузяты чалавек, прачытаўшы вышэй прыведзеныя вытрымкі, зробіць адзіны вывад, што бачны Намесьнік Хрыста на зямлі—ап. Пётра.

Кожны, хто прызнаў верхавенства ап. Пётры, ня можа не прызнаць, што яно дадзена яму «у-ва ўсе дні да сканчэньня веку» (Мацьвей 28:20). А гэта значыць яму й яго пераемнікам.

Хто яго пераемнік? Каб адказаць на гэтае пытаньне, зьвернемся да гісторыі.

«Шчасьлівы Іеронім (+420) кажа, што Пётра прыйшоў у Рым на другі год праўленьня імператара Клаўдзія (41—54 гг.) і займаў там катэдру 25 гадоў (А. Валконскі, «Каталіцтва і Сьвятое Паданьне Усходу», стар. 135, заўвага, стар. 109). Такім чынам, з 42 па 67 г. першым Рымскім біскупам (Папай) быў ап. Пётра. «Пераемнік біскупа ўступае ва ўсе правы папярэдніка. Пераемнік біскупа па рымскай катэдры атрымлівае ў спадчыну ўсе яго правы, значыць і яго верхавенства». (Там жа, стар. 135).

Як вядома, першых рымскіх біскупаў рукапакладаў ап. Пётра. «Бліжэйшыя пераемнікі вярхоўнага апостала вядомы дакладна... Іеронім... піша: «Клімант быў пасьля Пётры чацьвёртым біскупам Рыма; другім быў Лін, трэцьцім Кліт» (стар. 135—136). Выходзіць, што «Лін сапраўды быў першы рукапакладзены біскуп Рымскі. Але цэрквам прысвойвалася не імя першага рукапакладзенага біскупа, а імя апостала, яе заснаваўшага» (стар. 113). Таму Рымскае біскупства зьяўляецца Вярхоўным у Сусьветнай



# РОДНАЙ МАЦІ-МОВЫ

Не спрачаючыся з гэтымі людзьмі, так і хочацца спытаць іх: а ці ведаюць яны, у якім стане беларуская культура, адукацыя, мова, урэшце духоўнасць?

Гавораць, правядзём рэферэндум і высветлім ісціну. Хітры ход! Дыхаць людзям паветрам ці не, глядзець на неба ці не, размаўляць народу на мове продкаў ці не—рэферэндумам не вырашаецца. Вырашаць такія пытанні галасаваннем—амаральна.

Дарэчы, прыхільнікам рэферэндуму трэба нагадаць афіцыйныя вынікі перапісу насельніцтва 1989 г.—80,2% беларусаў назвалі роднай мовай беларускую. Дык адкуль бяруцца статыстычныя даныя аб тым, што толькі 6,5% патрабуюць адукацыю на беларускай мове? А хутчэй за ўсё з той жа крыніцы, з якой мы пачулі аб эвакуацыі Віцебска пасля выбуху на заводзе імя Камінтэрна, з крыніцы хлуслівай, якая не грэбуе падтасоўкамі. Гэтая сітуацыя нагадвае чарнобыльскую, калі нашы нігілісты і залётныя «дабрадзеі» пераконвалі нас, што ў Чарнобылі адбылася толькі аварыя і нічога жахлівага няма. Тое ж становішча і з беларускай мовай.

Наколькі парушаюцца правы чалавека, калі «кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных устаноў, партыйных, савецкіх, прафсаюзных органаў, грамадскіх арганізацый і прадпрыемстваў павінны валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання службовых абавязкаў» (Артыкул 4 Закона аб мовах). А не болей, чым пры вывучэнні хіміі, алгебры, арыфметыкі. Так, гэта прымус і парушэнне, без якога нельга жыць. Без ведання беларускай мовы, вывучэнне якой для некаторых расцягнулася аж на дзесяць (!) гадоў, таксама нельга жыць у незалежнай і суверэннай Беларусі. Між іншым, напэўна, Беларусь—адзіная няруская рэспубліка ў былым Савецкім Саюзе, дзе вывучэнне расейскай мовы для навучэнцаў абавязковае. Дык што ёй пагражае? Можа яна знікае з карты свету?

Што да вельмі хуткага ўвядзення Закона аб мовах, дык пастановай Вярхоўнага Савета Закон аб мовах уведзены 1 верасня 1990 г. Ягонае выкананне ў адпаведнасці з пастановай і дзяржаўнай праграмай, расцягнута да 2000 года. На які яшчэ большы тэрмін можна расцягнуць справу пашырэння сферы ўжывання беларускай мовы? І ўвогуле гэта абраза для чалавека, які не можа за дзесяць год засвоіць тое, на што малалетняму дзіцяці патрабуецца ад сілы год-два.

А што такое двухмоўе на Беларусі? Гэта траянскі конь, на якім недабразычліўцы хацелі б вярнуцца ў недалёкае мінулае. З практыкі вядома, што калі існуе дзве мовы разам і адна з іх пануючая (якой з'яўляецца штучна прышчэпленая нам расейская), дык з цягам часу пануючая выцясняе мясцовую. Вядомы расійскі філолаг Філін пісаў: змена мовы—змена этнасу. Вось гэтага і дамагаюцца прыхільнікі дзяржаўнасці расейскай мовы.

Расейская мова зараз дзяржаўная дэ-факта. І мы добра бачым вынікі гэтага становішча. Што ж будзе, калі яна будзе дзяржаўнай і дэ-юрэ? А любы чыноўнік «и иже с ним» скажа: «На што мне ваша беларуская мова—ёсць другая дзяржаўная—расейская». І вынік не цяжка прадугледзець—праз непрацяглы час мовы продкаў, падмурка нацыянальнай культуры, не будзе. Пагэтаму, на мой погляд, той, хто выступае супраць беларускай мовы,—выступае супраць беларусаў як этнаса, выступае супраць незалежнасці і самастойнасці Беларусі, бо адным з галоўных прызнакаў дзяржавы з'яўляецца яе мова і культура.

Памыляюцца і тыя, хто думае, што калі будуць дзве дзяржаўныя мовы, дык беларускую, як і раней, не трэба ведаць. Глыбокая памылка. Калі ў нас будзе сапраўды прававая дзяржава (а гэта павінна быць абавязкова), дык станецца так, як у Фінляндыі і Швейцарыі. Там кожны, хто працуе з людзьмі, павінен дасканала ведаць усе дзяржаўныя мовы: вытрымаць па іх экзамен—кожны, ад паштальёна да кіраўніка краіны. У дваццатыя гады на Беларусі пераважнай мовай была беларуская, але як раўнапраўныя ўжываліся польская, расейская і яўрэйская. Не магу сябе стрымаць ад спакусы, каб не ўявіць, як прадстаўнікі «Белай Русі» вывучалі б ідыш.

Што да іншых нацыянальнасцей, прадстаўнікі якіх жывуць на Беларусі і з'яўляюцца яе грамадзянамі, дык ім гарантавана стварэнне культурна-грамадскіх і адукацыйных аб'яднанняў (Артыкул 22 Закона аб мовах), дзе яны могуць удасканаліць ці набыць веды па гісторыі, культуры, мове. Гэта іх права, але не права дыктаваць беларусам, якой мовай яны павінны карыстацца. Акрамя права чалавека, ёсць права народа на карыстанне мовай продкаў. Нельга адчужаць народ ад яго мовы без разбурэння ягонага нацыянальнага жыцця.

Увогуле неабходна ўсім, хто і далей імкнецца праводзіць над беларусамі падобныя эксперыменты, цвёрда засвоіць, што не трэба павучаць беларусаў на мове чыіх продкаў яны павінны размаўляць.

**В. АРЛОЎ,**
**старшыня віцебскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы.**

З далёкай вандроўкі
дахаты вярнуцца,
Да белай бярозы
рукой дакрануцца,
На кожны лісток,
як на цуда дзівіцца,
З крыніцы маленства
вадзіцы напіцца—
І скрухі, і гора,
і смутку пазбыцца,
Як быццам нанова
На свет нарадзіцца.

**Іван ЛАЗУКА,**
г. Сянно



Восень. Фота **А. Гапонава.**

## СЯРОД ЛІДЭРАЎ

Паводле папярэдніх даных, якія паведаміў адзін з кіраўнікоў віцебскага аддзялення «Саюздруку», сярод беларускамоўных выданняў найбольшай увагай падпісчыкаў вобласці карыстаецца «Звязда». Яна займае трэцяе месца сярод усіх газетаў, на якія аб'яўлена падпіска.

**Назіральнік.**



Гаротная... Фота **І. Цярэнцьева.**

## Швейцарыя пад Віцебскам!

Віцебская абласная рада Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры выдала брашуру «Мазалаўская «швейцарыя», прысвечаную гістарычнаму мінуламу вёскі Мазалава. Аўтар яе—Д. Газін.

Пішу Вам, таму што адчуваю адказнасць за лёс сваёй Бацькаўшчыны.

Я горача люблю сваю Беларусь і беларускую мову, таму вельмі прашу Вас усімі сіламі садзейнічаць выкананню Закона аб мовах.

У мяне ёсць дачушка, якой пайшоў шосты год, і я спадзяюся, што яна будзе вучыцца ў беларускай школе альбо класе.

З вялікай павагай да вас
ваш чытач **Бандзёнак Ю. Б.**

# САПРАЎДНАЕ ПРАВАСЛАЎЕ?

царкве й носіць яшчэ назву «Пятрова катэдра».

А што наконт гэтага кажуць сьв. Айцы Усходняй Царквы?

«Сьв. Іоан Залатавусны (+407): «Дзеля чаго (Сын Божы) праліў кроў сваю? Дзеля таго, каб займець тых авечак, якіх ён даверыў Пятру й яго **пераемнікам**» (стар. 233).

«Шчасьлівы Іеронім (+420): «Першынство належыць рымскай царкве таму, што яна катэдра Пётры, каўчэг выратаваньня й цьвярдыня, усё падтрымліваючая! Пётра асобны выбраньнік зь ліку дванаццаці, каб **заснаваньнем Галавы захаваць (Царкву) ад расколаў»** (стар. 234).

«Сьв. Базыль (Васіль) Вялікі (+379) піша заходнім біскупам ад імя ўсходніх: «сапраўды дастойна найвялікшага ўлагоджваньня дараванае ад Госпада вашай багабойнасьці адрозьніваць падробленае ад каштоўнага й чыстага» и «прапаведваць **бяз усякага адхіленьня веру айцоў,** якую мы прынялі й (прызнаём)»... выкладаную апосталамі» (стар. 232).

«Сьв. Феадор Студыт (+826):

1. Ён называе рымскую катэдру: а) тронам Пётры: «ты,—піша ён папе Пасхалію,—Пётра, упрыгожваючый і правячы прастол Пятроў», б) «першым апостальскім прастолам».

2. Рымскага біскупа Студыт называе: «архіпастырам паднябеснай Царквы», «першасным апостальскай галавой», «вярхоўным Сусьветным сьветачам», «першанствуючы перад усімі», «скалой веры, на якой адбудавана кафаліцкая Царква», «боскім кіраўніком усіх кіраўнікоў», «вялікай «Галавой» Божай», «галавой усіх сьвятых «глаў», «пераемнікам Пётры», «апостальскім кіраўніком Царквы Хрыстовай»» (стар. 236).

З вышэйпрыведзенага можна вывесьці **першы** (з чатырох разглядаемых) **праваслаўны дагмат—бачная вярхоўная й безпамылковая ўлада ў Царкве належыць Намесьніку Ісуса Хрыста на зямлі Рымскаму папе, як Пераемніку ап. Пётры.**

II. Прывядзём яшчэ некалькі вытрымак з Новага Запавету:

«Няхай будуць усе адно: як Ты, Айцец, у-ва Мне, і Я ў Табе... Ты даў Мне, Я даў ім, каб былі адно, як Мы адно. Я ў іх, і Ты ў-ва Мне» (Іоан 17:21—23).

«Цяпер зразумелі яны, што ўсё, што даў Ты Мне, гэта ад Цябе. І ўсё Маё Тваё, і Тваё Маё...» (Іоан 17:7, 10).

«І Я ўпрашу Айца, і Ён дасьць вам другога Пацяшыцеля, каб быў з вамі давеку» (Іоан 14:16).

«Калі ж прыйдзе Пацяшыцель, якога Я пашлю вам ад Айца, Дух Праўды, Які ад Айца зыходзіць. Ён будзе сьведчыць аба Мне» (Іоан 15:26).

«...Калі Я не пайду, Пацяшыцель ня прыйдзе да вас, калі-ж пайду, пашлю Яго да вас» (Іоан 16:7).

«І вось Я пасылаю абяцанае Айцом Маім на вас; вы-ж аставайцеся ў месьце Ерузаліме, дакуль не адзенецеся сілаю зьвыш» (Лука 24:49).

«І як канчаўся дзень Пяцідзесятніцы, усе былі аднадушна разам. І зьнячэўку пачуўся гук зь неба, быццам ад наляцеўшага буйнага ветру, ды напоўніў увесь дом, дзе яны сядзелі. І паказаліся ім падзеленыя языкі, быццам агнявыя, ды паселі на кожным зь іх.

І напоўніліся ўсе Духам Сьвятым...» (Дзеяньні сьв. Апосталаў 2:1—4).

«...Ды ўзяўшы ад Айца абяцаньне Духа Сьвятога. Ён выліў тое, што цяпер бачыце й чуеце» (Дз. 2:33).

«Якога выліў на нас шчодра праз Ісуса Хрыста, Збавіцеля нашага» (Ціт 3:6).

«Бог адзін; Бог адзін у трох Асобах. Бог Айцец—адзіны сапраўдны Бог, Бог Сын—той жа самы адзіны сапраўдны Бог; і Дух Сьвяты—такі самы адзіны сапраўдны Бог. Розьніца ў асобах аб'яднана адзінай сутнасьцю: Сьв. Тройца—адзінасутная». (339). З гэтага сфармулюем **другі праваслаўны дагмат—Сьвяты Дух зыходзіць ад Айца й Сына.**

**Уладзімір ГУБСКІ.**

**(Заканчэнне ў наступным нумары).**

# Майстар

1. Фрагмент вежы.
2. Фрагмент фасада Пакроўскай царквы.
3. Майстар-тынкоўшчык Васіль Клімянкоў.
4. Фрагмент званіцы.
5. Частка агароджы ансамбля Пакроўскае царквы.











Лепшым упрыгожаннем старых гарадоў заўсёды была і ёсць старадаўняя архітэктура. Камяніцы даўніх часоў, вежы старых замкаў, узнёслае хараство храмаў—усё натхненне і фантазія дойлідаў, усё гісторыя, але разам з тым усё справа рук чалавека—майстра, гімн карпатлівай працы, увасабленне боскага дару, а ўрэшце запавет і дарунак памяці роднаму гораду, нашчадкам, людству.

Наш Віцебск не з самых шчаслівых гарадоў у сэнсе захаванасці яго векавой культуры, бо з твару яго час і чалавечае варварства сцёрлі лепшыя яго набыткі, велічную архітэктурную красу, а разам з тым натхненне, любоў і майстэрства яго творцаў, іх лёс, іх імёны.

Майстар—майстэрства—мастацтва... У аснове ўсяго адна існасць, любоў да хараства, дасканаласці, самасцвярджэнне, самаспасціжэнне. Бо без майстэрства чалавек гібее, а з ім гібее культура, а горад ператвараецца ў бездушнае паселішча, дзе чалавек страчвае самапавагу, а ўрэшце і нацыянальную свядомасць як знак сваёй адметнасці.

У майстэрстве выратаванне чалавека, а майстар-чалавек шчаслівы, годны, бо ён паяднаўся з Творцам. Таму Адраджэнне для нас—найперш вяртанне страчанай самапавагі, самавызначэння.

Кожны з віцяблянаў зведаў відаць на сабе—нельга было прайсці міма ўзнімаемай з руінаў Пакроўскае царквы (былога Трынітарскага кляштару), каб не ўзняць у здзіўленні галаву, не адчуць гаючы подых Адраджэння. Таму гэта быў найперш урок вяртання да святла, рэанімацыя душы, знак надзеі для цэлага горада.

І вось сёння, калі храм светлаю свячою асвяціў Віцебск, калі паўсталі яго светлыя муры і званіцы ў атачэнні святочнай агароджы, мне і захацелася колькі слоў сказаць аб адным з майстроў, рукамі якога створана белае дзіва.

Калі пачыналася рэстаўрацыя Пакроўкі, у душы маёй панаваў скепсіс: ці здолеюць нашы будаўнікі «выхаваныя» дзесяцігоддзямі тыпавога ўмельства, адолець гэткі нечаканы аб'ект, вярнуць помніку былое хараство? Да недаверу было нямала падстаў, бо столькі разоў бачыў, як няўмелыя рукі і абыякавасць псавалі (ды і сёння псуюць) пры рамонтах тое, што захавалася. Душа пратэставала, гледзячы на гэткі здзек з чужое, некалі добрае працы. Прыклад—нядаўняя «рэстаўрацыя» старога будынка на вуліцы Савецкай, высакародную пластыку якога «шабашнікі» ператварылі ў беспародны жах (дарэчы не без «дапамогі» т. зв. рэстаўрацыйных майстэрняў ды абыякавасці ахоўных органаў).

Хадзіў да Пакроўкі ці не кожны дзень, вёў размовы з тынкоўшчыкамі, бо менавіта тынкоўшчык надае пабудове канчатковую гармонію. Ад яго ўмельства, густу, пачування прыгажосці залежыць усё—будзе музыка і гармонія ці вартае жалю цяп-ляп, якое так зняважае нас паўсюдна. Было і такое, калі адно маё з'яўленне на аб'екце выклікала пратэст таго ці іншага «майстра»: «Опять идет тот бородатый, опять заставят переделывать»...

Тут упершыню я і заўважыў гэтага хлопца, у якім мая прага дасканаласці хутка знайшла душэўны кантакт, бо, відаць, сама прырода пасяліла ў душы яго дар прадчування гармоніі, прагу сцвердзіць сваю чалавечую годнасць. Клімянкоў Васіль—яго імя. Па бацьку—Рыгоравіч. Яго не насцярожвала маё з'яўленне, наадварот, хутка я заўважыў, што мае візіты і абвостраная патрабавальнасць яму па душы, бо ці не ўпершыню яго натуральная патрэба добрае справы знайшла ў маім разуменні хараства саюзніка і аднадумцу. Больш таго, калі я, часам спяшаючыся, праходзіў міма Пакроўкі, ён, заўважыўшы мяне з вежы, прыветліва запрашаў зайсці і ацаніць, быццам гаворачы—паглядзі, што зрабіў я... Ці не з тою ж патрэбаю мастак чакае свайго гледача, а добры музыка—свайго слухача! Вось вялікі сакрэт творчага духу: падзяліцца, падарыць другому радасць сваёй душы, сваіх рук.

Сапраўды было хораша з ім. Здзіўляла беспамылковае разуменне ідэі кожнае архітэктурнае формы, дасканаласць рухаў працуючых рук, адчуванне гармоніі кожнае лініі ці ў карнізе, ці ў акругласці паўкалоны.

Гледзячы на яго ўпэўненыя рухі і шчырае жаданне дагадзіць найперш самому сабе (!) на душу клалася заспакаенне не толькі за лёс храма, але найперш за чалавека, які здольны абараніць сябе, душу сваю ад разбурэння абыякавасцю. На жаль, такіх, як Васіль Клімянкоў, у нас яшчэ паўсюдна не так многа. Не кожны здольны яшчэ гаварыць з гармоніяй на ты, не кожны разумее мяжу паміж дасканаласцю і халтураю.

Ці не адчуванне пэўнай творчай адзіноты, а мо і недаацэнка з боку гаспадароў храма (у нас жа ўсё яшчэ шчыраму майстру плацяць тое ж, што і «шабашніку»), на пэўны час прывялі да таго, што Васіль пакінуў Пакроўку, мо шукаючы разумення ў другім месцы. Яго адсутнасць адбілася на помніку адразу ж. Варта нават недасведчанаму чалавеку паглядзець на ўзведзены без яго ўдзелу барабан купала над дахам царквы, як у душы адчуецца дыскамфорт, бо ні дасканаласці лінейных рытмаў, ні гармоніі чыстых плоскасцяў тут вы не ўбачыце. Тое ж у недаробленай агароджы, што ідзе ў бок суседняга будынка суда, дзе ўжо няма дасканалай шляхетнасці таго, што адшчыравалі рукі Клімянкова, усё прыблізна, усё так-сяк, дзе музыкі ўжо не чуваць.

Калі муляры склалі вежу, што прыбудавана да будынка кляштара і паўстала чарга тынкоўшчыкаў, адчуваў я сябе зноў ніякавата, бо вежа тая—мая ідэя, якую нялёгка было адстаяць у асяродку праекціроўшчыкаў і якасць выканання якой для мяне набывала асаблівы сэнс. Аб вежы гэтай у мяне не раз ішла размова з епархіяльным архітэктарам Яўгенам Калбовічам (яму я ўдзячны за падтрымку і праектаванне вежы, як дарэчы і айцу Мікалаю, і ўладыку Дзімітрыю, якія таксама выказалі мне салідарнасць). Але бачыць яе ў якасці знявечанага барабана я не жадаў, таму пайшоў шукаць ратунку для вежы да айцоў. Толькі Васіль Клімянкоў мог даць ёй рады, толькі яго майстэрства магло выратаваць ідэю маю ад кампрамату. І я рады, што ён вярнуўся і дапамог.

Сёння вежа мая ўжо красуе ў яго выкананні, а я стаю з майстрам на рыштаваннях, слухаючы яго нетаропкую споведзь, у якой, на жаль, і цяпер гучыць трывога за тое, што зроблена яго рукамі і робіцца рукамі яго калег па рамяству. У размове гэтай шкадаванне, што не здолеў давесці справу да канца, што распалася сабраная некалі брыгада рэстаўратараў, што ўвогуле змарнела сама ідэя рэстаўрацыйных майстэрняў, якая трапіла ў рукі людзей (за рэдкім выключэннем) з дэфіцытам не толькі любові да справы, але найперш сапраўднага разумення гаючай вышыні Адраджэння.

Сумная споведзь чалавека, у якім з'ядналася пачуццё святла і хараства з патрэбаю быць карысным высакароднай справе ратавання тысячагадовага горада.

Дык дзе шукаць аднадумцаў? Хто запатрабуе натхненне і прагу дзейнасці майстра?

Адно супакойвае, калі я чарговы раз іду каля Пакроўкі, дзе некалі сустрэўся з ім—гараць пад сонцам яго вежы, бяжыць уздоўж вуліцы абласканая яго рукамі ажурная агароджа...

Ён яшчэ малады, але ўжо здолеў сказаць свайму гораду сыноўняе «дзякуй», а мы скажам «дзякуй» Майстру.

**Алесь МЕМУС.**
**(Фота аўтара).**

## СВЯТА НАБЛІЖАЕЦЦА

3-га лістапада Беларусь будзе святкаваць 110-угодкі з дня нараджэння народнага паэта Беларусі, пісьменніка, педагога, акадэміка рэспубліканскай АН, аднаго з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і мовы Якуба Коласа (Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча)—1882—1956.

## УРАЧЫСТАСЦІ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Дзесяткі тысячаў праваслаўных вернікаў на Беласточчыне ўрачыста сустрэлі вернутыя з Гародні мошчы аднаго з святых беларускай зямлі, св. Дзіцяткі-Мучаніка Гаўрыіла. Мошчы змешчаны ў беластоцкім саборы св. Мікалая.

## АДНАЎЛЕННЕ РАЗБУРАНАГА

Падобна на тое, што неўзабаве адновіцца яшчэ адна парафія і, зразумела, праваслаўная царква ў вёсцы Браздзетчына, што ў Аршанскім раёне. Мясцовы святар прыкладае намаганні для прывядзення храма ў больш-менш прыстойны выгляд.

## НАВІНЫ

Адбылася справаздачна-выбарная нарада Віцебскага абласнога аддзялення Беларускага фонда культуры.

* * *

365 гадоў назад (1627) у вёсцы Порплішча Докшыцкага раёна збудаваная Спаса-Праабражэнская царква, помнік драўлянага дойлідства.

* * *

Напрыканцы кастрычніка ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я. Коласа мяркуецца прэм'ера смяхотнай штукі В. Дуніна-Марцінкевіча «Залёты». 22-га і 23-га гэтага ж месяца пройдзе спектакль «Любоўнікі з Каліфорніі». Фантасмагарычная камедыя С. Мрожака на тэмы секса, сям'і і палітыкі «Шчаслівае здарэнне» павінна адбыцца 24 ды 25 кастрычніка.

# СТВАРЭНЬНЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ВОЙСКА І ДЗЯРЖАЎНАЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

Старая савецкая армія, што раптам цяпер махрова разбуяла на Беларусі, павінна быць паступова зьліквідаваная, адначасна са стварэньнем на яе месцы і на яе аснове новага беларускага войска, сфармаванага па грамадзянскіх крытэрыях, без нацыянальнай розьні і камуністычна-расейскага шавінізму, вернага і адданага сваёй дзяржаве і народу, якому яно прыносіць прысягу, шануе яго культуру, мову, народныя здабыткі, не пагарджае яго працай.

У мяне не выклікае ніякага сумненьня, што дзяржава не павінна вырашаць сацыяльныя праблемы тых ваеннаслужачых і тых наменклатурных генералаў, што„будучы ў беларускіх узброеных сілах, не прынялі вайсковую прысягу на вернасьць Беларусі, тых вайсковых асобаў, што зьневажаюць нашу дзяржаву, наш сьцяг і герб, наш народ, яго мову, гістарычныя і культурныя каштоўнасьці. Такія людзі выпадковыя ў войску. Гэтыя палажэньні павінны быць адлюстраваныя ў законе аб сацыяльнай абароне вайскоўцаў, які трэба ўводзіць у дзеяньне толькі пасьля прыняцьця прысягі. Адданасьць дзяржаве, народу, лаяльнасьць да яго мовы і культуры павінны быць адлюстраваны як абавязковае патрабаваньне ў законе аб войску.

Мяркую, што асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на вайсковых сьпецыялістаў. Пры скарачэньні войска яны павінны карыстацца прыярытэтам захаваньня на пасадах.

Старыя камуністычныя палітрукі не павінны весьці палітычна-выхаваўчую працу ў войску, не ведаючы беларускай мовы, не прайшоўшы сьпецыяльных адукацыйных курсаў перападрыхтоўкі і штогодняй атэстацыйнай камісіі на прафесійную годнасьць.

Акрамя таго, некаторым службам і абслузе ў войску трэба надаць грамадзянскі статус. Тут будзе і эканомія сродкаў і захаваньне працоўных месцаў для вайскоўцаў.

Лічу, што Міністэрства абароны трэба перападпарадкаваць Вярхоўнаму Савету, каб пазьбегнуць канцэнтрацыі ўсіх сродкаў улады ў руках аднаго Саўміна. Упраўленьне грамадзкай бясьпекі і абароны Савета Міністраў павінна быць зьліквідаванае з-за непатрэбнасьці. Гэта лішняя структура. Пытаньнямі бясьпекі і абароны абавязаны займацца адпаведныя міністэрствы.

Вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на ваенныя вучэльні і на нармальнае гуманітарна-патрыятычнае выхаваньне вайсковай афіцэрскай зьмены. Не павінна беларуская вайсковая вучэльня называцца «сувораўскай». Гэта зьняважліва і ганебна. Вучэльню трэба рэфармаваць у вайсковы калегіум імя Вялікага гетмана Канстанціна Астрожскага і спрыяць таму, каб адтуль выходзілі сапраўдныя сыны Бацькаўшчыны з цьвёрдымі паняцьцямі пра беларускі афіцэрскі гонар і нацыянальную годнасьць.

Ствараючы нацыянальнае войска, трэба памятаць не толькі пра забесьпячэньне ґарантый нашага дзяржаўнага суверэнітэту, але і пра будучыню нацыі, пра яе духоўнае здароўе, бо праз войска праходзіць большасьць мужчынаў нашай дзяржавы, прытым у такім узросьце, калі фармуюцца жыцьцёвыя схільнасьці і ідэалы. Старая савецкая армія дзейнічала як малатарня, ламаючы душы маладых і ў цэлым псавала маральнае і інтэлектуальнае здароўе грамадства. Беларускае войска не можа быць такім. Яно павінна даць людзям большы, лепшы выбар, шырэйшыя магчымасьці для асобы, без фальшы і нянавісьці. Ёсьць краіны, дзе гэта дасягнута, і я ўпэўнены, так будзе і ў нас. Але ўсіх нас, усё грамадства чакае дзеля гэтага вялікая цяжкая і мужная праца. Яна ажыцьцёвіцца, бо ўжо ёсьць людзі, што прысягнулі Беларусі сэрцам і здольныя пастаяць за радзіму і за сябе.

**(Даклад прачытаны на соймавай канферэнцыі БНФ па вайсковых пытаньнях 25.09.1992 г.).**

*Это не должно повториться*

# КОШМАРЫ ГУЛАГА

(Окончание. Начало в № 19).

Многочисленные заключенные, с которыми мне пришлось встретиться в лагерях за свой длительный срок, рассказывали, что некоторые зеки, потерявшие надежду выжить, кончали жизнь самоубийством или рубили себе пальцы рук, стопы ног или голени и кровью писали на лесоматериалах, предназначавшихся на экспорт, три буквы латинским шрифтом «SOS»—спасите наши души, или тайком вкладывали письма с описанием своей участи в загруженные штабеля. Такую, кровью написанную надпись, лично мне пришлось видеть на доске, обнаруженной нами в штабеле экспортного леса за границу, когда я был на острове Вайгач в 1934 году, куда попал из Соловков. Лес был спасен заключенными Вайгачского лагеря ОГПУ с эстонского парохода, севшего на банку возле мыса Белого в Егорском проливе. Там же обнаружили обрубленные пальцы и два письма, написанные на английском и немецком языках, оповещавшие Запад о нашей тяжелой участи рабов.

За несколько дней до отправки нашего этапа с Попова острова на Соловки, меня вызвал нарядчик на конюшню, где двое старичков зеков запрягали лоподводы. Нарядчик дал задание погрузить из морга трупы заключенных и похоронить их. Место захоронения укажет конвой.

Мы втроем вытащили из морга двенадцать окоченевших трупов, вернее скелетов, едва обтянутых желтой кожей, до того истощенных, что жутко было смотреть на них. От человека остались только кожа и кости. У каждого на ноге болталась деревянная бирка с написанным химическим карандашом номером. Ни фамилии, ни инициалов. Совершенно раздетые...

В то время в лагерях уже была громадная смертность от непосильного труда при 12—14 часовом рабочем дне. Люди умирали от истощения, массовой дизентерии, пеллагры, дистрофии, отсутствия квалифицированной медицинской помощи и необходимых медикаментов.

Один из конвоиров с винтовкой наперевес скомандовал нам следовать за ним с обязательным: «Шаг вправо, шаг влево будет считаться побегом! Буду стрелять без предупреждения!».

Он пошел впереди нашей печальной траурной процессии, за ним две подводы, запряженные клячами, предпоследним я, а шествие замыкал стрелок с винтовкой наготове, пальцами на курке, шагавший метрах в пяти и не спускавший с нас узких глаз. Чем черт не шутит, вдруг кому-то из паршивых зеков придет в голову шальная мысль рвануть в побег!

Мы двигались медленно и молча, провожая в последний путь никому неизвестных арестантов—людей, так нелепо закончивших свой жизненный путь на неизвестном никому из родных отшибе своей Родины. Кто эти люди, не дождавшиеся свободы, возвращения домой? Шли, невольно думая о своей собственной судьбе. Удастся ли еще выйти на волю, встретиться со своими близкими?

Клячи с трудом тянули груженные телеги по кочковатой, сильно заболоченной колее. Вот и открытое болото. Прозвучала команда шедшего впереди конвоира остановиться. Он указал нам на большой котлован, наполненный бурой зловонной болотной жижей, перемешанной с остатками ветвей, пней когда-то росшего здесь мелколесья, кусков торфа. Как мне стало известно от старичков, уже бывалых лагерников, занимавшихся похоронами, лагерные бонзы якобы из-за отсутствия поблизости подходящего места, а—может быть—и для сокрытия фактической смертности в лагере в чудовищных размерах, или сокрытия места захоронения, долго не раздумывая, быстро нашли поистине Соломоново решение. Чтобы кладбище не мусолило глаза местному населению, дали «мудрую» команду подрывникам взорвать для этой цели на болоте огромный котлован, рассчитанный на братскую могилу для сотен тел, не оставлявший следов. Не нужно создавать бригады могильщиков на рытье могил. А так—быстро, дешево и удобно. Свалил трупы в котлован—и концы в воду. Болото все проглотит без следа и засосет в трясине.

Я было остановился в недоумении, как же мы будем без могил и гробов хоронить покойников? Но старички—люди опытные в этом деле, дружно взялись за закоченевшие трупы и принялись ловко стаскивать их с подвод, крикнув мне, чтобы я поддерживал трупы за голову. Страшно, даже теперь, спустя почти шестьдесят лет, вспоминать, как мы брали их за окоченевшие костлявые ноги и руки, направляя головой в вонючую жижу. Покойник упорно «сопротивлялся», не желая погружаться вглубь, и невзирая на все усилия с нашей стороны, «норовил» вынырнуть обратно на поверхность. Мы же, в свою очередь, вырубленными из хилых елочек жердями пытались изо всех сил впихнуть его под корягу или высунувшийся из под жижи пень, или остаток отгнившего ствола дерева.

Мы выбивались из сил в «борьбе» с покойниками, а конвоиры—молодые крестьянские парни с простыми туповатыми лицами и ничего не выражавшими пустыми, безразличными глазами, бесстрастно сидели на полусгнившем стволе, курили, о чем-то переговариваясь, наблюдали за нами и время от времени сочно матерились, понукая нас быстрее заканчивать. Наконец конвоирам наша возня порядком надоела. Мы получили от них нагоняй «побыстрей закрывать нашу лавочку» и бросать «шмырей» навалом в одну кучу, закидав сверху всяким растительным хламом. Незасыпанными остались на поверхности трое...

После таких «похорон», кощунственного надругательства над мертвыми, я долго не мог прийти в себя, пища не лезла в горло. Меня преследовала удушающая вонь проклятого котлована, трупный запах, костлявые трупы с открытыми ртами и глазами, а ночью кошмарные сны. Старички поведали, что иной раз они привозили даже более двадцати трупов. Братскую могилу не украсили ни крестом, ни деревянным столбиком с дощечкой, где упоминались бы фамилии погибших или их номера и даты «захоронения».

Через несколько дней мы с Муниным были отправлены этапом на таинственные Соловецкие острова. Доставил нас туда пароход «СЛОН» (по аббревиатуре СОЛОВЕЦКИЕ ЛАГЕРЯ ОСОБОГО НАЗНАЧЕНИЯ).

Позже, посетив Соловки в 1989 году, я встретился там с некоторыми старыми соловчанами, прибывшими туда, как и я, на «ДНИ ПАМЯТИ». Один из них, соловчанин конца двадцатых годов, герой фильма Голдовской «Власть Соловецкая»—Ефим Данилович Лагутин. Проходя со мной мимо Онуфриевского кладбища, он показал мне рукой:

—Помнишь, там была пилорама. Когда я работал там, то видел на участке, где сейчас зеленеет небольшая полянка, большие траншеи или рвы, постоянно заполнявшиеся мертвыми—до ста и более трупов. Когда они заполнялись доверху, тогда только и засыпались землей и разравнивались... Зимой еще ничего при морозе, а летом же стояла тошнотворная вонь. Ямы эти обычно заполнялись за 4—5 дней, не более. Люди умирали как мухи.. и от расстрелов.

Так было на Соловках. Возьмем теперь строительство железнодорожной магистрали Котлас—Воркута. Мой друг по Ухте Алексей Августович Унгер, проживающий ныне в Сосногорске под Ухтой, вспоминает:

—В 1940 году я находился на одном из лагпунктов возле нынешнего Сосногорска. Жили в шалашах и землянках. Работали на трассе круглосуточно. В снег и проливной дождь. Висел даже транспорант «На трассе нет дождя!». Просушить мокрую одежду негде. Первые дни вместо хлеба получали муку, из которой приспособились печь на костре пышки или варить в котелках мучную болтушку, но попробуй пробиться к костру! Работавший там старшим бухгалтером Коншин Иван Иванович поведал мне, что в одну могилу ежедневно закапывали по 10—15 человек. Смертность была ужасная.

А мой второй друг—Константин Михайлович Янголенко, ныне житель Витебска, рассказал мне следующее: «Когда меня привезли в Тайшет в феврале 1938 года, увидел штабеля мертвых зеков, прикрытых брезентом, невыносимые условия жизни, то я ужаснулся!

Брезентовые палатки на 200—300 человек, с одной единственной «печкой»—трубой около пяти метров, диаметром сантиметров 80.

Первая моя работа была рытьем могил для тех, кто лежал в штабелях, прикрытых брезентом. Благо, что дело шло к весне и в июне меня повезли обратно...»

Зимой 1937/38 года к нам в Седью, где я находился на строительстве тракта Чибью—Крутая, прибыл этап из пяти человек. Среди них находились герои гражданской войны—Александр Тодорский и отец бывшего хозяина лагерей—Г. Г. Ягоды—Григорий Филиппович Ягода. Начальник ОЛПА капитан-инженер II ранга Георгий Александрович Яцковский знал по Москве престарелого отца бывшего наркома. Он сжалился над еле волочившим ноги дряхлым старцем, поместил его в наше общежитие. Место досталось ему рядом со мной. Освободил его от общих работ, назначив рабочий паек. Но через несколько дней Яцковский получил строгий выговор от руководства лагеря из Чибью и предписание отправить старика на штрафной пятый лагпункт, где его поместили в карцер и где через несколько дней он умер. Мой знакомый по тем годам, работавший на тракте зав. медпунктом лагпункта Илья Николаевич Тарасов вспоминает:

«Ягода умер у меня в стационаре, куда я забрал его из подземного изолятора (глубокой землянки), куда он был помещен по распоряжению администрации с 200 г хлеба и черпачком мучной баланды в день... Он говорил: «Запомни мои слова, ведь я скоро умру. Мой сын был исполнителем воли свыше... Если бы он отказался выполнить их волю, то сына сразу расстреляли бы!»

Мне же старик в Седью поведал: «Сын мне дважды сетовал на Хозяина, когда он поставил перед ним вопрос о желании уйти из ОГПУ на другую работу, то Сталин крикнул ему, стуча кулаком по столу, если он посмеет еще раз заикнуться об отставке, то своей рукой вождь пустит Генриху пулю в лоб!»

Дряхлый старик уверял, что все же настанет время и история скажет народу правду.

Голый труп Ягоды два цыгана отнесли в тайгу на съедение хищникам. Ему было тогда 75 лет...

В системе лагерей, и в частности на тракте, так и хоронили людей. В Седью существовала бригада могильщиков, летом рывших могилы, а зимой спускавших трупы в прорубь на речке или же прятавших их в снегу. Летом, после таяния снегов, следы «похорон» открывались. Но ввиду миграции заключенных невозможно было выяснить, кто был могильщиком...

Богу душу отдавшие устремлялись в мир иной, а останки оставались сваленными в ямы или разбросанными по тайге, степи, пустыням, тундре—везде, где царствовал ГУЛАГ. Почтим же память их—невинных наших соотечественников!

**К. ГУРСКИЙ,**
**Ялта.**



Здраўнева. Музей-сядзіба І. Я. Рэпіна.

*Па старонках тутэйшых газет*

## Лепш зняць

Ну і дзівакі гэтыя «Віцьбічы»! Друкуюць 14 кастрычніка артыкульчык «Новае—горш за старое», дзе з тэкста аўтара вынікае, што дзяржаўныя сімвалы (сцяг і герб «Пагоня») з'яўляюцца фашысцкімі, нацыяналістычнымі, ваяўнічымі, бо яны ў гады другой сусветнай вайны выкарыстоўваліся «здраднікамі народа, якія прысягалі на вернасць фюрэру» пад імі. Можа й не хочацца гэтаму грамадзяніну жыць пад сучаснай дзяржаўнай сімволікай—справа ягоная. А вось газеце, якая заснавана органам дзяржаўнай улады, ці варта было б зміяшчаць такі матэрыял? І ці стасуецца герб на першай старонцы газеты з памянёным вышэй артыкулам?

**Назіральнік.**

## Экспарт сексуальнай рэвалюцыі

З поспехам прайшла дэманстрацыя ў Віцебскім гарадскім цэнтры культуры і адпачынку замежных эратычных фільмаў «9 1/2 тыдняў» і «Дзікая архідэя-2». Характэрная асаблівасць гэтага паказу—пераважаючая большасць дзяўчат сярод гледачоў.

**НАЗІРАЛЬНІК.**

## МОВАЙ ЛІЧБАЎ

Самым заможным чалавекам у свеце з'яўляецца султан Брунея 46-цігадовы Хасанал Балнах Муізадзін Вадаулах. Ягонае багацце ацэньваецца ў 37 млрд. доляраў.

* * *

В перыяд сацыялістычнага ладу на Беларусі было рэпрэсіравана 600 тысячаў чалавек.

* * *

За 8 месяцаў гэтага года ў Віцебскай вобласці адбыўся 1791 пажар. Загінула 76 чалавек, з іх 6 дзяцей. Матэрыяльныя страты 9 млн. 48 тыс. 791 рубель.

**Ю. С.**

## Вясёлы глобус

*Знаходзіўся за рысай беднасці, толькі не ведаў па які бок ад яе.*

* * *

*—Хельга, ты замужем за художником. Как складывается ваша жизнь?*
*—Очень весело: я готовлю еду, а он рисует. А потом мы пытаемся отгадать, что у нас получилось.*

* * *

*—Бокс—прекрасный вид спорта!*
*—А вы болельщик?*
*—Нет. Я—хирург по пластическим операциям.*

*Во дзівосы!*

## Атрута

Шведскі кароль Густаў III быў глыбока перакананы, што кава з'яўляецца атрутай.

Каб даказаць правільнасць сваёй тэорыі, ён прымусіў аднаго з забойцаў у якасці пакарання піць штодня каву ажно да смерці. А каб мець параўнанне, другі злачынца быў амніcціраваны з умоваю, што кожнага дня будзе ўжываць гарбату. Прызначылі двух урачоў, якія павінны былі сачыць за ходам эксперыменту. Першымі памерлі дактары. У 1792 годзе быў забіты кароль. Прайшло шмат гадоў і, урэшце, адзін з забойцаў памёр ва ўзросце сямідзесяці трох гадоў. Гэта быў той, што піў гарбату.

## Аб'явы

Вы хочаце, каб зорка камерцыйнага поспеху вашай фірмы ўзышла і свяціла над усёй Беларуссю? Тады адзін выхад—**тэрміновая рэклама ў нашым выданні.**

***

Вы жадаеце штосьці прадаць, абмяняць, купіць, камусьці павіншаваць—адным словам—зрабіць аб'яву? **Звяртайцеся да нас лістоўна ці па тэлефоне 37-28-44.**

***

**Вы хочаце чытаць эксклюзіўнае выданне!** тады спяшайцеся падпісацца на «Нашу Ніву», віленскую газету для ўсяе Беларусі. Яе кошт на паўгоддзе 24 рублі, індэкс—63125.

***

Жыхары Чашніцкага раёна могуць звязацца з Аб'яднанай дэмакратычнай партыяй Беларусі праз яе актывіста **сп. Аляксандра Мікалаевіча Лішына** (211162, г. Новалукомль, вул. Энергетыкаў, д. 16, кв. 6, тэл. 3-62-44).

***

Прыватна практыкуючы **юрыст аказвае паслугі:** юрыдычныя кансультацыі, складанне скаргаў і заяў, вядзенне па даручэннях грамадзянскіх ды крымінальных справаў.
Тэл.: 1-76-26 (Віцебск).

***

Жадаюць як найхутчэйшага поўнага выздараўлення **сп. Уладзіміру Плешчанку**

**сябры.**

## ВУТКІ

Ганна Вікенцьеўна, нягледзячы на маленькі рост і васьмідзесяцігадовы ўзрост, ніколі ў жыцці не хварэла. Колькі сябе помніць, яна хадзіла ўлетку басанож, піла жалудовую каву, працавала па дванаццаць гадзін у дзень на калгаснай ніве і ва ўласнай гаспадарцы.

Але ж гады бяруць сваё. Аднойчы ёй стала вельмі дрэнна: ногі перасталі слухацца, грудзі сціснулі нейкія нябачныя абручы.. Руплівыя суседзі выклікалі «хуткую дапамогу».

Калі хворую паклалі на бальнічны ложак, яна ціхенька запыталася ў юнай медсястры, што ёй рабіць, калі спатрэбіцца выйсці «да ветру».

Медсястра, якая вельмі спяшалася даглядзець чарговую серыю «Марыяны», паспешліва адказала:

—Не хвалюйцеся, калі што, у вас пад ложкам стаяць вуткі.

Засынаючы, бабка Ганна ўспамінала, як цэлы тыдзень гасціла ў горадзе ў малодшай дачкі Алены, і як тая катэгарычна забараняла ёй хадзіць па пакоі без тапачак...

Гадзіны ў тры ночы ўсе хворыя восьмай палаты прачнуліся ад нейкага незвычайнага лязгату. Прачнуліся ў калідоры і медсястра.

З расчыненых дзвярэй палаты выходзіла хворая Гусакова, на нагах у яе мятляліся металічныя медыцынскія вуткі... Хочаце верце, хочаце не—ад смеху ў многіх хворых восьмай палаты на наступны дзень, на вялізарнае здзіўленне галоўнага ўрача, наступіла рэзкае паляпшэнне самаадчування.

З часам гэтая гісторыя ператварылася ў бальнічны анекдот.

Вось і ўсё.

**Анатоль КАРЧЭЎСКІ.**

Наступны нумар газеты выйдзе 4 лістапада 1992 года.



ЗАСНАВАЛЬНІК:
*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

**Галоўны рэдактар**
**Барыс ХАМАЙДА**

Мастак **Р. Клікушын.**
Фатаграфіі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17, тэл. 37-35-06, 37-28-44.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку («Віцкамбанк»). Код (МФО) банка 150801701.

Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні ім. Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.

Паліграфісты: **В. Карунас, Л. Волкава, Л. Драздова, А. Каспаровіч, М. Аджанс, Б. Платоўскі.**

Нумар падпісаны да друку 20.10.1992 г. у 17.15
Наклад 2500 экз.

*Цана 1 рубель*

## Падзяка

«Выбар» шчыра дзякуе сп. Уладзіміру Якаўлеву з Віцебска з ахвяраванне ста рублёў у фонд газеты.

Міжнародная канферэнцыя Сходу хрысціянаў (краін Балтыі, Нямеччыны, Польшчы, СНД) запрашае **на сустрэчу жыхароў ды гасцей Віцебска** 27 і 28 кастрычніка ў 19 г. 30 хв. у памяшканні Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа.